*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля

**№ 96 (218)**

Пятніца, 6 чэрвеня 1997 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец — ТАА "Народная воля"

Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.



**Сонца**

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 4.22 | 21.34 |
| Магілёў | 4.30 | 21.24 |
| Гомель | 4.36 | 21.13 |
| Мінск | 4.40 | 21.35 |
| Гродна | 5.57 | 21.49 |
| Брэст | 5.07 | 21.41 |

*Першая квадра 13 чэрвеня*



**А што за словамі?**

## Прэзідэнт патрабаваў ліквідаваць запазычанасць па зарплаце ў бліжэйшыя 10 дзён, а яна вырасла амаль у два разы

Тое, што наш прэзідэнт шмат абяцае, але не заўсёды за яго словамі пачынаюцца справы, заўважана даўно. Не стала выключэннем і выступленне Аляксандра Лукашэнкі па Беларускаму тэлебачанню 30 красавіка гэтага года. Вось што ён гаварыў: "Хотел был обратиться к руководителям всех предприятий и учреждений: в течение 10 дней ликвидировать все имеющиеся задолженности по заработной плате. Также хочу проинформировать телезрителей, что на ближайшем рабочем совещании президента с председателем Совета министров и вице-премьерами будет рассмотрен вопрос о своевременной выплате зарплаты рабочим и служащим".

Як жа выконваецца распараджэнне прэзідэнта, тым болей што ўжо даўно мінулі тыя 10 дзён, пайшоў другі месяц?

Я пазваніў у многія высокія інстанцыі, і ў мяне склалася ўражанне, што на тое патрабаванне прэзідэнта ўжо ўсе забыліся. У эканамічным падраздзяленні Адміністрацыі прэзідэнта параілі звярнуцца ў прэс-службу, а там — у Савет міністраў. У эканамічным упраўленні ўрада таксама нічога не ведалі наконт запазычанасці па зарплаце і адправілі ў Міністэрства працы. У намесніка міністра "не аказалася пад рукой" лічбаў, і ён пераадрасаваў у аддзел. Але і там не мелі ніякіх даных па важнай праблеме, чакалі звестак з Міністэрства статыстыкі і аналізу.

Такім чынам, 30 красавіка прэзідэнт перад тэлегледачамі распарадзіўся на працягу 10 дзён ліквідаваць запазычанасць па зарплаце. Але ж з чэрвеня ні ў яго Адміністрацыі, ні ў Савеце міністраў, ні ў Міністэрстве працы не маглі мне растлумачыць, як жа выконваецца ўказанне прэзідэнта.

Я пазваніў у Міністэрства статыстыкі і аналізу. Там назвалі даволі красамоўныя лічбы. Калі на 25 красавіка запазычанасць па зарплаце складала 439,7 мільярда рублёў, дык на 26 мая яна ўжо вырасла да 705,6 мільярда рублёў, альбо амаль падвоілася. Людзі ўсё больш і больш пераконваюцца: прэзідэнт гаворыць адно, а ў жыцці адбываецца зусім іншае. І што многія яго пасажы маюць часта папулісцкі характар, разлічаны на даверлівую публіку.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

**Рэха**

## Чаму дэлегацыя рабочых не можа сустрэцца з прэзідэнтам?

Аб выступленнях рабочых буйнейшых заводаў Беларусі паведамлялася неаднаразова. Вось ужо год яны дабіваюцца своечасовай выплаты зарплаты, прадастаўлення прафсаюзам і актывістам рабочага руху эфіру на тэлебачанні і радыё і г.д. У пачатку красавіка ў Мінску адбыўся шматтысячны мітынг рабочых прадпрыемстваў машынабудавання і радыёэлектроннай прамысловасці, на якім зноў пацверджаны гэтыя і іншыя патрабаванні. Удзельнікі мітынгу абралі дэлегацыю, якая павінна была сустрэцца з прэзідэнтам і павесці шчырую размову аб жыцці. Яны ж заклікалі ўлады правесці адкрытыя тэледэбаты з прафсаюзнымі лідэрамі. Усе гэтыя прапановы рабочых перадаў прэзідэнту кіраўнік прафсаюза аўтасельгасмаша Аляксандр Бухвостаў у час тэлесустрэчы Лукашэнкі з журналістамі і грамадскімі дзеячамі.

Час ідзе, а голасу рабочых з тэлеэкрана штосьці не чуваць. Як наогул успрыняты наверсе патрабаванні прафсаюзаў і працоўных? З гэтымі пытаннямі я звярнуўся да сакратара Беларускай асацыяцыі незалежных прафсаюзаў прамысловасці Мікалая Герасіменкі. Ён растлумачыў, што прыкметных зрухаў да лепшага не відаць. Запазычанасць па зарплаце не змяншаецца, а расце. Прэзідэнт не знайшоў магчымасці, каб сустрэцца з рабочымі, і такая падзея пакуль не прадбачыцца. Эфірны час прафсаюзам і рабочым не даюць. Кіраўніцтва Беларускага тэлебачання лічыць, што перадач аб жыцці рабочых і так дастаткова і праводзіць адкрытыя дэбаты прафсаюзаў з уладамі не варта. Між тым, рабочыя-актывісты якраз і абураюцца зместам перадач Беларускага тэлебачання і хацелі б самі адкрыта і сумленна пагаварыць аб праблемах жыцця.

Прафсаюзы накіравалі яшчэ адзін ліст уладам, у якім напамінаюць аб сваіх патрабаваннях. Калі і ён застанецца без увагі, актывісты збяруцца ў чарговы раз, каб вырашыць, як дзейнічаць далей.

**Антон ВАСІЛЕНКА.**

**Бліц-інтэрв'ю**

## Ці будуць на Беларусі свае Нобелеўскія лаўрэаты?

Пытанне, вынесенае ў загаловак, прагучала з вуснаў журналіста, які на апошняй прэс-канферэнцыі адрасаваў яго прэзідэнту Нацыянальнай акадэміі навук нашай краіны А.Вайтовічу. Аляксандр Паўлавіч быў шчырым: Акадэміі навук сапраўды ёсць чым ганарыцца — калектыўнымі здабыткамі ў розных галінах навукі фундаментальнага і прыкладнога накірункаў. Ну а на пытанне, ці будуць на Беларусі свае Нобелеўскія лаўрэаты, адкажа час.

Выкарыстаўшы момант, карэспандэнт "Народнай волі" звярнуўся да прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук А.П.Вайтовіча і ўзяў у яго бліц-інтэрв'ю.

**— Аляксандр Паўлавіч, калі мець на ўвазе фінансавае становішча акадэміі, то спадчына Вам дасталася не з заможных. Нават тых сродкаў, што выдзелены на гэты фінансавы год ("на ўзроўні мінулага") — 160 мільярдаў рублёў, не хопіць на выплату зарплаты. Як Вы збіраецеся, апынуўшыся ў такой сітуацыі, стымуляваць працу вучоных, заахвочваць іх на самааддадныя, не пабаімся гэтых высокіх слоў, навуковыя подзвігі ў імя беларускай дзяржавы?**

— За спачуванне дзякуй. Але трагедыі з цяжкага матэрыяльнага становішча мы ўвогуле не робім. Куды значней было б зберагчы наш навуковы і інтэлектуальны патэнцыял, не даць разбегчыся сапраўдным аўтарытэтам у розных галінах навукі. Таму пасля заканчэння выбарчых працэдур новы склад кіраўніцтва акадэміі, яе прэзідыум, не губляючы марна і дарэмна часу, узяліся за распрацоўку нашых прапаноў на перспектыву і бліжэйшыя два гады. І калі нашы прапановы будуць адобраны, выйсце з крытычнага становішча будзе забяспечана.

**— Ці разлічваеце Вы на фінансавую падтрымку дзяржавы і яе прэзідэнта?**

— Бюджэт — справа, зразумела, узважаная. У ім усё ўлічана і пералічана. Таму нічога не рабіць і толькі чакаць інвестыцый, на мой погляд, было б залішне. Але і пры наведванні акадэміі, і ў час гутаркі пасля абрання мяне прэзідэнтам Акадэміі навук Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка пацвердзіў свой намер фінансава падтрымаць "кузню" навуковых адкрыццяў. І ў той жа час мы больш актыўна зоймемся пошукам унутраных рэзерваў: будзем аддаваць перавагу прыкладному накірунку навуковай дзейнасці. Іншымі словамі, Акадэмія навук будзе працягваць вучыцца зарабляць грошы.

**— Дарэчы, Аляксандр Паўлавіч, гэта слова некалькі разоў гучала ў час Вашых зносін з прадстаўнікамі прэсы. А што Вы чакаеце ад запланаванай атэстацыі навуковых супрацоўнікаў? Ці паўздзейнічае яна на стымуляванне творчага пошуку, больш эфектыўнай, мэтанакіраванай і выніковай працы? Ці ўдасца Вам адсекчы так званы баласт, пазбавіцца тых "навуковых" супрацоўнікаў, якія толькі вызначаюць сваю прысутнасць на рабочым месцы, а ніякімі навуковымі распрацоўкамі не займаюцца?**

— Апошняе пытанне ў ланцугу ўзнятых вамі праблем — адзін з накірункаў і адна з мэт праводзімай атэстацыі. Скажу нават больш: ёсць навуковыя супрацоўнікі, асабліва сярод малодшага звяна, якія паўладкаваліся на працу ў камерцыйныя ды прыватныя структуры і на службу ходзяць толькі дзеля таго, каб засведчыць сваю прысутнасць. Калі іх будучыя вакансіі абагульніць і нават толькі ў межах фонда заработнай платы зрабіць дабаўкі тым, хто застанецца, ад гэтага выйграе менавіта навуковая справа. Застануцца больш актыўныя кандыдаты і дактары навук, якія ўмеюць працаваць эфектыўна. А ў нас будзе магчымасць стымуляваць іх дзейнасць.

**— Дзякуй Вам, Аляксандр Паўлавіч, за бліц-інтэрв'ю. Ці можа "Народная воля" разлічваць на больш грунтоўную і пашыраную гутарку з Вамі?**

— Калі ласка, запрашаем. Але дайце хоць крыху папрацаваць, зрабіць штосьці істотнае, каб было аб чым гаварыць, а не абяцаць і толькі запэўніваць...

**Віктар СВІРКО.**

**Поздравляем!**



**Завершилась первая белорусская арктическая экспедиция. В течение месяца наша команда отрабатывала технику и тактику продвижения по тундре, а также льдам и ледовым торосам Карского и Бирендева морей. Необычность данного арктического турне заключалась в том, что его участники двигались на одном пневматическом вездеходе и двух пневматических мотоциклах, сконструированных и собранных в Минске.**



**На снимках:** *совместная группа российских и белорусских арктических путешественников; во время движения по замерзшей заполярной реке Кара.*

**Фото Виктора ТОЛОЧКО, БелТА.**

**Загадка**

## Награда ждет героя Беларуси... Кто получит почетнейшее звание?

Как в прекрасную пору расцвета в экономике и финансах, культуре и спорте, в Беларуси множится число деятелей различного профиля, отмеченных вниманием благодарного государства. В начале лета 1997 года прибавилось еще несколько десятков заслуженных, народных и награжденных орденами и медалями.

К примеру, получил медаль "За отвагу" начальник Управления внутренних дел Минского горисполкома Борис Тарлецкий. Он удостоился ее в числе восьми тех мужественных сотрудников силовых структур, которые участвовали в задержании вооруженного террориста, взявшего в заложники детский садик. Правда, драматическое событие имело место год назад, но награда, спустя долгое время, нашла героев. И лишь о Тарлецком можно сказать, что к нему награда поспела аккурат к окончанию политической весны-97, отмеченной неоднократными столкновениями руководимого им столичного ОМОНа с демонстрантами.

Разумеется, ордена Отечества III степени, медали "За трудовые заслуги" и Франциска Скорины раздавал польщенным обладателям сам Александр Григорьевич Лукашенко. Награды и звания, просыпавшиеся на счастливчиков из щедрой руки дающего, имеют разное достоинство. Однако все они ниже высшего в республике звания "Герой Беларуси", положение о котором только что утвердила Палата представителей. Первым героем Беларуси стал посмертно военный летчик Владимир Корват. А кто следующий, безвестный пока?

Тот, которого ждет окончательно узаконенное почетнейшее звание, должен являть собой нечто грандиозное, исключительное, потрясающее. В принципе, национальным героем следовало бы признать того отечественного Геракла, Атланта и Прометея по совместительству, который вытащил бы Родину из системного кризиса и сделал бы ее действительно процветающей.

Следует ожидать, что народ сразу начнет примерять высшее почетное звание к той или иной персоне. Ну что могут измыслить на сей счет благодарная президенту интеллигенция, обласканные им трудовые коллективы или любящий правителя простой человек? Наверняка они сойдутся на одном человеке, и человек этот всем известен. Ох, не миновать Александру Лукашенко героической участи...

**Рогнеда ВЛАДИМИРОВА.**

## Даже если Вы подпишетесь на "Народную волю" на один месяц — у Вас есть шанс выиграть ценный приз!

Как Вы, дорогие читатели, помните, прошлой осенью редакция "Народной воли" проводила лотерею среди тех, кто оформил подписку на первую половину 1997 года. Обладатели "билетов удачи" получили ценные призы — холодильники, телевизоры, магнитофоны, мебельные гарнитуры, кофеварки, спортивный инвентарь и многое-многое другое.

Сейчас идет подписка на вторую половину 1997 года. Редакция опять решила объявить лотерейный розыгрыш, дополнительно включив массу ценных выигрышей. Примите участие! Подписываясь на "Народную волю", Вы имеете шанс выиграть дорогостоящую вещь. Даже если подпишетесь на один месяц.

Не забывайте, что подписка объявлена до 15 июня 1997 года.

***Стоимость на месяц — 29 тыс. рублей, на квартал — 87, на полгода — 174 тысячи. Подписаться можно в любом подписном пункте. Наш индекс — 63222. Подробная информация — в приложении к каталогу.***

**ЛОТЕРЕЯ!**

Уважаемые подписчики, вырежьте этот купон, заполните его и отошлите по адресу: **220030, г.Минск, ул.Энгельса, 34а, "Народная воля".**
На конверте сделайте пометку "Лотерея".
Авторитетная комиссия определит победителей.

Ф.И.О. ____________________

____________________

Адрес ____________________

____________________

**Внимание!**
В розыгрыше участвует один купон. Письма присылайте до 25 июня 1997 г
Призы победителям вручат при наличии подписного абонемента!

**Факт!**

## Як нас абдзірае Расія, якая шмат гаворыць пра дружбу

Выступаючы на рэспубліканскім семінары па кормавытворчасці, які адбыўся днямі ў Капыльскім раёне, міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Васіль Лявонаў прывёў красамоўныя факты. Ён, у прыватнасці, сказаў, што расіяне згодны прадаставіць нам камбайны "Дон" пад крэдыт у 20 працэнтаў гадавых у валюце. На думку нашага міністра, гэта сапраўдная абдзіралаўка. На Захадзе можна набыць падобныя машыны пад 7—8 працэнтаў гадавых. "Вось вам і дружба", — усхвалявана гаварыў міністр.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

## Независимые газеты вернутся на Беларусь?

Как известно, 16 июня ожидается начало переговоров "девятки" — специальной рабочей группы, в которую входят по три представителя от Администрации президента Беларуси, Верховного Совета 13-го созыва и европейских структур. Они будут консультироваться по поводу возможных изменений в Конституции Республики Беларусь.

Естественно, что участники переговоров пока держат в секрете свои предложения. Однако, как стало известно, среди условий, которые намерена выдвинуть "тройка" от Верховного Совета, есть и такое — официальные власти должны разрешить печататься в Беларуси газетам, которые сейчас вынуждены издаваться за рубежом. Если парламентариям удастся добиться своего, то это означает, что "Народная воля" и некоторые другие газеты вернутся на Беларусь. Так и должно быть!

**Владимир ГЛОД.**

**Футбол**

## "Дети" Байдачного повторяют рекорда

Этот результат заставил поднять брови самых искушенных любителей футбола. Минские динамовцы, ведомые новым главным тренером Анатолием Байдачным, победили витебский "Локомотив-96" с незаурядным счетом — 6:1. Правда, они лишь повторили рекорд мозырского МПКЦ. Однако мозыряне нокаутировали аутсайдера той поры — минское "Торпедо", а динамовцы — нынешнего главного конкурента в борьбе за призовое место.

Судя по почте, читатели "НВ" интересуются перипетиями в национальном чемпионате. Предлагаем их вниманию результаты остальных матчей 9-го тура чемпионата: "Коммунальник" (Слоним) — "Шахтер-Беларуськалий" (Солигорск) — 3:1; "Торпедо" (Минск) — "Динамо" (Брест) — 1:3; "Неман" (Гродно) — "Днепр" (Могилев) — 1:1; "Торпедо-Кадино" (Могилев) — ФК "Молодечно" — 2:0; "Белшина" (Бобруйск) — "Динамо-93" (Минск) — 2:1; "Трансмаш" (Могилев) — "Нафтан-Девон" (Новополоцк) — 0:1; МПКЦ (Мозырь) — "Атака" (Минск) — 4:0.

**Александр МАЙСКИЙ.**

**Таблица розыгрыша**

| | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|
| "Белшина" | 9 | 8 | 0 | 1 | 25—9 | 24 |
| МПКЦ | 9 | 5 | 4 | 0 | 22—5 | 19 |
| "Динамо" (Мн) | 9 | 5 | 3 | 1 | 22—8 | 18 |
| "Локомотив-96" | 9 | 5 | 3 | 1 | 9—9 | 18 |
| "Днепр" | 9 | 4 | 3 | 2 | 14—9 | 15 |
| "Динамо-93" | 8 | 4 | 2 | 2 | 12—5 | 14 |
| "Нафтан-Девон" | 9 | 4 | 2 | 3 | 13—9 | 14 |
| "Динамо" (Бр) | 9 | 4 | 2 | 3 | 15—15 | 14 |
| "Неман" | 8 | 3 | 3 | 2 | 10—6 | 12 |
| "Атака" | 9 | 3 | 3 | 3 | 7—11 | 12 |
| "Торпедо-Кадино" | 9 | 3 | 1 | 5 | 8—17 | 10 |
| "Коммунальник" | 9 | 2 | 2 | 5 | 7—14 | 8 |
| "Торпедо" (Мн) | 9 | 2 | 1 | 6 | 9—21 | 7 |
| "Трансмаш" | 9 | 1 | 2 | 6 | 4—14 | 5 |
| "Молодечно" | 9 | 0 | 4 | 5 | 5—13 | 4 |
| "Шахтер" | 9 | 0 | 1 | 8 | 4—21 | 1 |

## Удакладненне

4 чэрвеня быў надрукаваны артыкул "Ці паўторыць беларуская мова лёс лацінскай?.." На жаль, у ім па віне аўтара скажона прозвішча дырэктара 23-й сярэдняй школы г.Мінска Ларысы Лявоненка. Просім прабачэння.

**Рэдакцыя.**

**Актуальна!**

## Як выжыць з пятлёй на шыі?

*Мінскі трактарны завод — буйнейшае прадпрыемства Беларусі. Не так даўно ён выпускаў сто тысяч машын у год і быў гордасцю краіны.*

*А як жыве яго калектыў цяпер? Што яго хвалюе?*

*Аб гэтым ішла размова днямі ў канферэнц-зале завода. Сюды сабраліся вядучыя спецыялісты прадпрыемства, навукова-прамысловай асацыяцыі, адказныя работнікі Міністэрства прамысловасці, Нацыянальнага сходу, каб сумесна абмеркаваць праект па вывaду гіганта індустрыі з крызісу.*

*Нараджаўся ён няпроста. Сумесна з навукова-эканамічным цэнтрам "Экон" была выпрацавана канцэпцыя рэструктурызацыі вытворчасці. Яе абмеркавалі ў завадскіх калектывах, пазнаёмілі з асноўнымі намёткамі спецыялістаў міністэрства і ўрада. І вось цяпер вынеслі канцэпцыю на пасяджэнне савета навукова-прамысловай асацыяцыі, каб яшчэ раз з удзелам вядучых спецыялістаў горада абмеркаваць сітуацыі, [план] дзеянняў, пашукаць лепшы варыянт.*

Цяперашняе жыццё завода і сутнасць рэарганізацыі вытворчасці абмаляваў кіраўнік прадпрыемства М.Лявонаў. За апошнія гады выпуск трактароў зменшыўся ў чатыры разы. Зараз адчуваецца востры недахоп абаротных сродкаў, хвалюе вялікая зношанасць абсталявання. Між тым аналіз паказвае, што ёсць вялікі рынак для збыту прадукцыі. Завод можа наладзіць выпуск многіх мадыфікацый трактароў і іншай тэхнікі, у прыватнасці, для работы ў лясной гаспадарцы.

Што для гэтага трэба? Найперш сродкі — у памеры 100 мільёнаў долараў. Але дзе іх узяць? У дзяржавы няма, замежныя інвестары ў Беларусь не ідуць. Таму мяркуецца аб'яднанне МТЗ ператварыць у акцыянернае таварыства адкрытага тыпу, прыцягнуць сродкі мясцовых інвестараў.

Па-другое, зацікавіць работнікаў у тым, каб прадпрыемства працавала ўсё лепей і лепей. Цяпер жа яны толькі турбуюцца аб зарплаце і зусім не думаюць аб заўтрашнім дні вытворчасці. Між тым нават на Захадзе галоўная стаўка робіцца ўжо не на капітал, а на работніка і яго адносіны да справы. Дарэчы, вопыт Расіі, дзе акцыяніраваны ўсе трактарныя заводы, таксама скіроўвае да такой думкі. Там не патурбаваліся, як павысіць матывацыю работнікаў да працы, і ў выніку рэзка знізіліся аб'ёмы вытворчасці і канкурэнтаздольнасць тэхнікі.

Таму беларускія спецыялісты, улічваючы расійскія пралікі, мяркуюць, што ў АТ "Мінскі трактарны завод" будуць акцыі і дзяржавы, і работнікаў прадпрыемства. Акцыі працаўнікам становяцца больш выгаднымі тады, калі таварыства працуе больш зладжана. Кожны ўладальнік акцый штогод будзе ведаць, як павялічваецца яго набытак. У той жа час статутам АТ права прымаць рашэнні дэлегавана спецыялістам, бо не кожны рабочы валодае адпаведнымі ведамі для такіх спраў. Пры гэтым найбольш важныя рашэнні, у тым ліку і генеральнага дырэктара, праходзяць экспертызу прадстаўнікоў уласнасці, што павінна выключыць злоўжыванні і некампетэнтнасць.

Мяняецца і схема кіравання. Яна стане больш гібкай, аператыўнай. Асноўныя вытворчасці становяцца юрыдычнымі асобамі, па сутнасці, амаль самастойнымі заводамі-вытворцамі.

Дэталёва гэты аспект раскрыў кіраўнік навукова-эканамічнага цэнтра "Экон" Я.Доўгаль. Сутнасць перамен у тым, што ўсе падраздзяленні пераводзяцца на гаспадарчы разлік. Падкрэслівалася, што ў праекце канцэпцыі многае ўзята з вопыту заводаў Японіі, Германіі, ЗША.

Паспяховае ажыццяўленне канцэпцыі перабудовы дазволіць выйсці ў 2000 годзе на выпуск 50—60 тысяч высакакласных, канкурэнтаздольных трактароў.

Аднак на шляху ажыццяўлення праекта шмат перашкод. Галоўная — падатковая. Скажам, знойдзе завод 100 мільёнаў долараў. Вядома, на іх трэба закупіць перадавыя тэхналогіі і абсталяванне. А яны — за мяжой. Пры перасячэнні нашай граніцы трэба выкласці 30% кошту ў якасці самых розных "пабораў". Дзе ж узяць яшчэ 30 мільёнаў долараў? Да таго ж, яны цяжарам лягуць на кошт прадукцыі. Новыя станкі яшчэ не абтачылі ніводнай дэталі, а за амартызацыю ўжо плаці. Вывад распрацоўшчыкаў праекта перабудовы вытворчасці такі: пры існуючай падатковай сістэме нельга пачынаць работы. Яны будуць неэфектыўнымі. Бо падаткі — пятля на шыі вытворцы.

І яна не адна. Заканадаўчая база такая, што сам працэс стварэння акцыянернага таварыства, на думку спецыялістаў, можа зацягнуцца гады на тры. Значыць, патрэбна дапамога ўлад, каб паскорыць гэты працэс. Распрацоўшчыкі ставяць пытанне і аб змяншэнні падаткаў з прадпрыемства на той перыяд, калі яно будзе перабудоўвацца. Зразумела, што падобныя пункты праекта холадна сустрэты ва ўрадавых кабінетах.

Дыскусія, якая разгарнулася, паказала даволі складаную, амаль тупіковую сітуацыю, у якой аказаліся вытворчыя калектывы.

Былы камандзір вытворчасці, а цяпер навуковы работнік Юрый Весялоў ушчэнт разбіў многія довады, абгрунтаваў некваліфікаванасць шэрагу распрацоўшчыкаў. Ён гучна і настойліва пытаўся ў прыціхлай залы: "Што гэта за тэрміны — "патрабуюцца немалыя сродкі", "будзе вялікая карысць для дзяржавы", "кепскія падаткі"? І сапраўды, гэта набор пустых фраз з учарашняга дня, які абсалютна ні аб чым не гаворыць. Інжынеры цяпер не размаўляюць на такой "сацыялістычнай мове".

Ён таксама напомніў, што рэструктурызацыя — не нейкая разавае вырашэнне праблемы, а пастаянны працэс прыстасавання да ўсё новых умоў рынку. У свеце вядомыя 34 методыкі рэструктурызацыі. У праекце скарыстана толькі адна — юрыдычная. А дзе астатнія — фінансавая, кадравая?.. Нарэшце, што такое гаспадарчы разлік? Гэта параджэнне сацыялізму, ці, як кажуць спецыялісты, кастрыраваны камерцыйны разлік. Нельга ісці ў рынак з "сацыялістычным інструментам".

Ад яго довадаў рабілася даволі сумна. Праект жа перабудовы распрацавалі вядучыя спецыялісты нашага лепшага завода сумесна з работнікамі міністэрства, урада. І столькі блытаніны і неразумення нават сучасных тэрмінаў. Столькі старых, аджыўшых уяўленняў!

Не менш красамоўныя заўвагі зрабіў і работнік Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Стаўскі. Па яго словах, канцэпцыя абсалютна не ўпісваецца ў заканадаўства. Дык хто ж тады купіць акцыі такога прадпрыемства? Любы інвестар, асабліва замежны, найперш пацікавіцца, ці ўсё ў парадку з мясцовым заканадаўствам.

Гэта так. Але той жа замежны інвестар найперш пацікавіцца: а ці легітымны тутэйшы парламент? Калі не, дык тое, што ён прымае, не мае юрыдычнага сэнсу. Вось у чым справа.

Кароткая дыскусія наконт нашага заканадаўства выявіла і іншыя адмоўныя яго бакі. Трапную заўвагу выказаў адзін выступоўца. Ён сказаў, што ў нас такое заканадаўства, пры якім ніхто не хоча акцыяніравацца, а той, хто ўжо паспеў, моліцца, каб вярнуцца назад.

І як тут яшчэ раз не ўспомніць словы аб тым, што сам працэс акцыяніравання зойме да трох гадоў. А калі ж перабудоўвацца? Цяпер рынкі збыту трактароў ёсць. За апошнія гады ў СНД выпуск "сталёвых коней" знізіўся амаль у дзесяць разоў. Многія машыны ў гаспадарках зношаны. Так што попыт на іх будзе. Гэта разумеюць і на расійскіх прадпрыемствах. І там стараюцца хутчэй "запусціць свае заводы". Выйграе той, хто першым дасць пакупнікам тое, што трэба. Але ж пры такіх тэмпах акцыяніравання і перабудовы, якія складваюцца ў Беларусі, можна не паспець і да "шапачнага разбору".

Нельга абысці маўчаннем яшчэ адзін аспект. Для больш гібкага і аператыўнага кіравання, прыняцця рашэнняў асноўныя вытворчасці набываюць самастойны статус. Але пры такім раскладзе падатковыя органы тут жа іх абкладуць "данінай". У выніку аб'яднанне акажацца пад двайным падаткаабкладаннем. Вялікія паборы ўзнімуць цану да такой вышыні, што трактар ужо ніхто не захоча купляць.

Цяпер спецыялісты будуць зноў дапрацоўваць праект і хадзіць па кабінетах, шукаючы падтрымкі ў чыноўнікаў. Многія раілі, што варта дабівацца ўказа прэзідэнта па акцыяніраванню МТЗ, які зняў бы многія перашкоды. Але ці згодзіцца ўрад на такі крок? Даць ільготы гіганту, які да таго ж зарабляе валюту, гэта азначае пазбавіць бедны бюджэт так неабходных грошай, якіх ужо не хапае на харчаванне шматлікім чыноўнікам і спецназаўцам. Так што трактарабудаўнікам, відаць, яшчэ доўга прыйдзецца хадзіць са сваім праектам па калідорах і кабінетах... А справа перабудовы вытворчасці будзе чакаць. Усё як і павінна быць пры сацыялізме.

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**

Вясковыя былі

# Сушня дзеда Язэпа

Памятую, як восенню 1948 года, прыехаўшы з Краншката, дзе праходзіў вайсковую флоцкую службу, у водпуск, я сустрэўся на вуліцы сваёй вёскі з невядомым сухенькім, невялічкага росту, сівабародым дзядком, які паволі крочыў, абапіраючыся на кіёк. Ён першым прывітаўся, хоць я яго не ведаў, што здзівіла мяне. На пытанне да маці, што за дзядуля аб'явіўся ў вёсцы, яна адказала:

— Язэп Малевіч з жонкай вярнуліся з высылкі, з-за Котласа.

— А дзе ж яны жывуць?

— Калгас старую сушню, што на выгане, аддаў. Дзед сам склаў печку-грубку, зашкліў вокны, асыпаў зямлёю прызбу — вось і дажываюць век. Ім, бедалагам, не шмат ужо і засталося пахадзіць па роднай зямлі.

Распытваць у дзеда пра яго вандроўкі па Поўначы я тады, па маладосці і камсамольскай "загартоўцы" флоцкай, не здагадаўся, ды ён і не стаў бы расказваць, бо пры ад'ездзе з месцаў ссылкі, як мне стала вядома пазней, даваў падпіску "о неразглашении".

Калі ж прыйшла хрушчоўская кароткая "адліга" з развянчаннем культа Сталіна і мы ўсе крышку сталі смялейшымі, распытваць Язэпа было ўжо позна — ён памёр, не дажыўшы крыху да васьмідзесяці. Пазней пайшла "в мир иной" і яго жонка, верная спадарожніца і апора Язэпа на ўсіх шляхах-дарогах іх нялёгкага жыцця.

А раскулачылі Язэпа і ягонага роднага брата Васіля (іх сядзібы знаходзіліся побач) зімой 1931 года. Яму тады было за пяцьдзесят, жонцы — таксама. Скідкі на ўзрост камбедаўцы і сельсаветчыкі не давалі. Калі маеш валоку зямлі, трое коней і тры каровы — значыць, "класавы вораг", збірай манаткі на высылку! Адправілі Язэпа з жанатым сынам, нявесткай і трыма ўнукамі-немаўляткамі. Хату яго і хлявы разабралі і перавезлі ў суседнюю вёску — пад нейкую гаспадарчую будыніну. А гумно засталося. Перад вайной я з вясковымі хлапчукамі, па нараду брыгадзіра, у жніво хадзіў туды снапы стараніць — складваць у высокія, пад самы дах, клеці. Мяне ўражвалі трывалыя дубовыя кроквы, апоры, смалістае бярвенне сцен гумна. У гады акупацыі ў ім складвалі снапы некалькі гаспадарак — усім хапала месца.

Пасля вяртання Язэпа з высылкі гумно яшчэ стаяла — пустое. І нікому з вяскоўцаў не прыйшла ў галаву думка прапанаваць старшыні калгаса сабраць для гаротнікаў з гуменных бярвенняў людскую хаціну. Баяліся ісці з такой прапановай: маглі абвінаваціць смелых у патуранні былым "кулакам". Аддалі старую, на водшыбе, сушню, дзе перад вайной калгасніцы сушылі лён. Ды і на памяці вяскоўцаў старога пакалення яшчэ былі сцэны галашэння адпраўляемых на чужыну жанчын і дзяцей.

...Сёння ў вёсцы пражывае семнаццаць пенсіянераў, шэсць гарадскіх дачнікаў і пяць сем'яў так званых "прыезжых", каму яшчэ па сіле цягнуць калгасны "воз". А мне іншы раз думаецца: "Што сказаў бы дзед Язэп, глянуўшы сёння на абязлюдзеўшую вёску, дзе калісьці ён быў гаспадаром на сваёй зямлі?"

# Тодарава полька

Дзядзьку Тодара Жаўрыда ў нашай вёсцы любілі і стары, і малы. За дабрыню, вясёлы нораў, тую шляхетную, у лепшым сэнсе слова, інтэлігентнасць, што праяўлялася ў падкрэсленай ветлівасці да жанчын, павазе да старога і слабага.

Жыў Тодар адзін. Расказвалі, што была ў яго жонка, але рана раптоўна памерла. Трагедыя ўразіла яго так, што ён ужо не шукаў сабе новую спадарожніцу жыцця. Так бабылём у бацькавай хаце і дажываў век. Працаваў у калгасе на палявых работах. Летам і зімою насіў шырокае, сшытае з даматканага сукна, галіфэ, кашулю з такога ж матэрыялу, падпяразваўся вузкім раменным паяском, насіў добра адглянцаваныя ялавыя боты.

У такім гарнітуры Тодар паяўляўся на вясковых вяселлях, вечарынках. Клуба ў вёсцы тады не было, і гулянкі праводзіліся звычайна ў чыйсьці вялікай хаце. Як толькі музыкант праводзіў пальцамі па клавішах гармоніка і, расцягнуўшы ва ўсю шырыню яго мяхі, "урэзваў" польку, ды не якую-небудзь "трасуху", а "фірмовую", з мудрагелістымі каленцамі, пачыналася прадстаўленне, якое здзіўляла і мяне — хлапчука. Дзядзька Тодар выходзіў на сярэдзіну хаты, адважваў паклон выбранай загадзя маладзіцы і, прытупнуўшы ботамі так, што пад столлю ўздрыгвала лямпа, ішоў танцаваць польку. Хоць меў ён тады за плячыма пяць дзесяткаў гадкоў, стомы ў танцы не ведаў. "Загнаўшы" да сёмага поту адну партнёршу, запрашаў тут жа другую. Тую польку, з адмысловымі каленцамі, так і празвалі ў вёсцы "тодаравай".

Але аднойчы мая бабуля раніцой сказала, што ноччу "чорны воран" забраў дзядзьку Тодара. За што — ніхто тады не пытаў, бо баяліся. Забралі — значыць, "нешта было". А было тое, што аднойчы пад добрую чарку дзядзька Тодар сказаў у кампаніі: "Дзякуй Сталіну-грузіну, што абуў нас у рызіну". Да вайны і пасля на Случчыне ў модзе былі склееныя са старых аўтамабільных камер галёшы-чуні. За бяскрыўдную, па сённяшніх мерках, прыгаворку Тодара "абулі" ў ГУЛАГ на восем гадоў. Адбыўшы тэрмін дзень у дзень, вярнуўся ў родную вёску пастарэлым, нейкім выцвілым, з пасівелымі вусамі і прыгнутымі ад непасільнай працы плячыма. І калі прыходзіў іншы раз на вясковыя вечарынкі і гарманіст іграў яго, "тодараву" польку, у танец не ішоў, хоць жанчыны і запрашалі: "Успомніце, дзядзька, як вы скакалі ў маладыя гады — прытупніце!" Тодар разводзіў рукамі, ківаў ссівелай галавой: маўляў, не магу. І ішоў дамоў.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

г.Слуцк.

Галерея

# Ударим перфомансом по бескультурью!

В достаточно уникальном для Минска месте в начале мая произошло достаточно уникальное событие — открыла свои экспозиции художественная галерея "Шестая линия". Эта галерея — единственная в столице, регулярно предоставляющая шанс показать свои способности молодым и непризнанным художникам, представляющим наиболее современные, а поэтому, конечно, спорные направления в искусстве.

Уникальное событие — фестиваль перфомансов: целых шесть вечеров небольшое количество посвященных (мероприятие проходило почти без всякой рекламы) приходили в зал по адресу: улица Якуба Коласа, 14, в надежде увидеть нечто необыкновенное, ведь содержание перфомансов не было известно даже организаторам. Иногда зрителей ждало разочарование, иногда их любопытство и терпеливость были достойно вознаграждены.

Искусство перфоманса — художественного представления, в котором принимают участие и творец — художник, скульптор, и его творения, а иногда и зрители (но это уже называется хэппенинг) и где объектом, представляемом публике, может быть собственно действие, — это не новость для двадцатого века. Появившись в 60-е годы, перфоманс уже прошел несколько фаз развития. И в Минске это достаточно редкое художественное зрелище тоже можно было видеть, а то и поучаствовать в нем. Но впервые перфоманс был представлен в таком количестве и объеме. Причем представленные перфомансы были сделаны в самых современных традициях — в духе концептуализма и постмодернизма. Посвящена неделя перфомансов была французскому режиссеру и писателю Антонену Арто, который еще в 20-е годы вывел теорию перфоманса, — как раз совсем недавно исполнилось сто лет со дня его рождения.

Большинство перфомансов были незамысловаты. Использовались простые подручные материалы типа обрывков ткани или рваных газет. Что вполне понятно, учитывая, что большинство авторов — студенты. Ограниченность в средствах никогда не могла ограничить фантазию и мысль. К сожалению, далеко не все смогли продемонстрировать достаточно идей и воображения, чтобы заинтересовать происходящим зрителей. Максим Тыминько показал представление под названием "Внутри у меня цветы": молодой человек вращается вокруг своей оси, держа в руках небольшой телевизор. На экране телевизора сменяют друг друга четыре кадра. Просто, но рука не поднимается дописать "со вкусом", скорее, хочется продолжить: "И это все?"

Илья Син в своем перфомансе "Илья Син умер" упор сделал на тексты. Прыгая, ползая, катаясь по полу, он много вдохновенно декламировал, возможно что-то важное и талантливое. К сожалению, поскольку с дикцией у художника оказалось не все в порядке, публика осталась в полном неведении.

Иной уровень показала Людмила Русова, достаточно известный в Беларуси автор. Ее перфоманс "Обратно" имел текстовую программу, основанную на игре слов "вращение" и "возвращение". В действии было и вращение внутри скрученной тканевой дорожки, и движение между двумя зеркалами, где меняются местами "туда" и "обратно".

Наиболее неожиданным и необычным было действо "Реалиора", предложенное Ириной Зеленковой и группой "Лабиринт". На профессионально высоком уровне было организовано пространство, свет и звук. Чтобы понять происходящее, зритель должен был попытаться вникнуть в сложную концепцию действия, изложенную на четырех страницах. Ирина Зеленкова попыталась размышлять, что есть иллюзия, а что есть реальность. В перфомансе четыре темные фигуры в масках, двигаясь в абсолютно иллюзорном пространстве, заполненном дымом и театральным светом, исполняют странноватый танец, в процессе которого снимают маски друг с друга. Под масками оказываются — маски.

Можно по-разному относиться к тому, что происходило в галерее "Шестая линия". Авангардное искусство давно утратило флер запретности и политичности. Как и всякий другой род культуры, сегодня оно нуждается в энтузиастах и в элементарной поддержке. "Шестая линия" держится на двух энтузиастах — кураторах галереи Ирине Бигдай и Ольге Копенкиной (все мероприятия проводятся бесплатно). Не хочется подводить окончательные резюме после окончания этого мини-фестиваля. В искусстве, тем более современном, слишком все субъективно, неоднозначно и неокончательно. Хочется пожелать сил этим двум хрупким девушкам. Благодаря таким, как они, в Минске художественном что-то происходит...

**Юрий БУДЬКО.**

**На снимке:** *одна из инсталяций, демонстрировавшихся в галерее "Шестая линия".*

# Кроссворд

**Составил В.И.Котегов (Гродно)**

**По горизонтали:** 4. Винтовая линия. 7. Балерина, заслуженная артистка России, получившая вместе с А.Лиепой Гран-при на III Международном конкурсе артистов балета в американском городе Джексоне в 1986 году. 10. Учреждение для хранения боеприпасов. 12. Чемпион Олимпийских игр 1964 года по прыжкам в высоту. 15. Летчик-космонавт, бортинженер, совершивший в 1992 году полет в составе международного экипажа на корабле "Союз ТМ-14". 16. Российский государственный деятель, председатель Комиссии по транспорту, связи, информатике и космосу Совета Республики Верховного Совета России с декабря 1991 года. 18. Город-порт в Мозамбике. 19. Город-герой. 20. Месяц года. 21. Горная система в Африке. 22. Металлическое кольцо, пластинка с отверстием. 23. Река во Франции, левый приток Роны. 25. Животное из отряда грызунов с ценным мехом. 27. Декламатор в Древней Греции. 28. Требование, приглашение явиться куда-нибудь. 29. Большой сосуд округлой формы с широким горлом, использовавшийся в Древней Руси. 30. Город в Свердловской области. 32. Актер театра и кино, народный артист России, исполнитель роли Медведя в телефильме "Обыкновенное чудо". 35. Казахский государственный деятель, глава Джамбульской областной администрации с февраля 1992 года. 36. Митрополит Нижегородский и Арзамасский.

**По вертикали:** 1. Старинная русская одежда, длинный широкий плащ. 2. Хищная птица семейства ястребиных. 3. Треугольный парус на судне. 5. Горная порода, строительный камень черного или темного цвета. 6. Прибор для получения электрического тока. 8. Космонавт, командир советско-английского экипажа на корабле "Союз ТМ-12" в 1991 году. 9. Ученый, математик, работающий в Санкт-Петербургском отделении Математического института им. В.А.Стеклова Российской АН. 11. Районный центр в Гродненской области. 12. Химический элемент, активный неметалл. 13. Казахский государственный деятель, глава Северо-Казахстанской областной администрации с февраля 1992 года. 14. Жидкая, обычно невкусная пища. 16. Президент Азербайджана. 17. Российский политический деятель, председатель подкомитета Комитета Верховного Совета России по законодательству с сентября 1990 года. 23. Районный центр в Армении. 24. Хищное животное из семейства кошачьих с очень острым зрением. 25. Местный приморский холодный ветер. 26. Озеро в Добрушском районе Беларуси. 31. Денежная единица в Монголии. 33. Неразбериха, хаос. 34. Вид земельной собственности в раннефеодальных государствах Западной Европы.

## Ответы на кроссворд, опубликованный в № 92

**По горизонтали:** 1. "Ревизор". 4. Симонов. 7. Сапфо. 9.Чайка. 11. Отбор. 12.Фонарь. 13. Резник. 15. Трансформатор. 20. МХАТ. 21. Трикони. 22. Ажур. 23. Самообладание. 28. Кристи. 30. Чубайс. 32. Джин. 33. Запад. 35. Базар. 36.Миронов. 37.Теленок.

**По вертикали:** 1.Руссо. 2. Зло. 3. Ростбиф. 4. Самовар. 5. Меч. 6. Влади. 8. Фирма. 10. Агент. 12. Флегматик. 14. Контрабас. 15. Транс. 16. Нутро. 17. Оскал. 18. Афиша. 19. Рыжие. 24. Метла. 25. Брежнев. 26. Абонент. 27. Наука. 29. Разум. 31. Йорик. 34. Дон. 35. Бал.

Увлечение и средство зарабатывать на жизнь — такое счастливое сочетание сопутствует далеко не каждому. У Владимира Лаврова все сложилось именно так. Когда после ряда вынужденных переездов с места на место он, наконец, обосновался в деревне Александрово Миорского района, оказалось, что работы для учителя черчения и рисования здесь нет. А семью, где пятеро детей, надо кормить, одевать.

Попробовал зарабатывать на хлеб лозоплетением. Творческая фантазия рождала разнообразные формы корзин, абажуров, настольных ламп, ваз и многого другого. Сегодня Владимира Лаврова и его изделия знают не только на Миорщине. Его поделки создают уют во многих домах по всей республике.

**На снимке:** *Владимир Лавров в своей мастерской.*

**Текст и фото Евгения КОЗЮЛИ, БелТА.**

## Трагедыя ходзіць побач з бесклапотнасцю

Паводле слоў Галіны Радкевіч з інспекцыі па справах непаўналетніх Упраўлення ўнутраных спраў на транспарце, галоўная прычына няшчасных выпадкаў з дзецьмі на чыгуначных пуцях — бесклапотнасць бацькоў. У гэтым годзе ўжо зарэгістравана пяць трагедый. Больш за ўсё іх адбылося ў апошні месяц вясны. Так, у Мінску на прыпыначным пункце "Трактарны завод" шасцігадовае дзіця выбегла з-за "таварняка" і трапіла пад ідучы хуткі поезд. "Хуткая" да бальніцы яго жывым не давезла.

У вельмі цяжкім стане ў рэанімацыі знаходзіцца двухгадовы хлопчык. Пад электрычку на станцыі Міханавічы ён трапіў у той момант, калі яго бацькі былі заняты гаспадарча-бытавымі справамі. А вось падлетак, які 25 мая днём паклаў галаву на рэйкі пад электрапоезд, быў "згублены" роднымі яшчэ раней. Як аказалася, хлапчук далучыўся да адной з сект і ў пасмяротнай запісцы сябрам напісаў, што ён павінен сустрэцца ў незямным свеце з вялікімі, якія пакінулі тленную зямлю.

**БелТА.**

Усміхнемся

# Нямецкі гумар

### Прыкмета кахання

Маладая пара з трохмесячным сямейным стажам адправілася ў горны паход. Падымаючыся на чарговае ўзвышша, жонка стамілася, прысела і пачала румзаць:

— Гельмут, чаму ты перастаў кахаць мяне?

— Адкуль у цябе такія думкі?

— Бо каб ты сапраўды кахаў мяне, то прывёз бы сюды на машыне.

### Эротыка

— Марта, што такое эротыка?

— Прабач, не магу табе дакладна сказаць: у мяне чацвёра дзяцей і не маю часу ў гэта ўнікаць.

### Хвалько

— Маю выдатнага сабаку. Ён кожны ранак прыносіць мне газету, — хваліцца Ганс.

— Кожны дрэсіраваны сабака можа гэта рабіць, — пярэчыць Гельмут.

— Яно, канешне, так, але сам падпісацца не здолее ні на адну газету.

### Забарона

— Выміце, Мюлер, цыгарэту з рота!

— Гэта не цыгарэта, а аловак.

— На рабочым месцы нельга трымаць у роце ані цыгарэту, ані аловак!

### Мара

— Неўзабаве, Карл, пойдзеш у акадэмію і, як марым мы з маці, станеш хірургам.

— Але ж, татка, ты з мамай ведаеш, што я не змагу забіць нават муху!

### Здзіўленне

Малы Ганс пытаецца:

— Тата, а чаму ты ажаніўся з мамай?

Бацька, гледзячы на жонку, з пераможнай усмешкай адказвае:

— Бачыш, нават дзіця не можа гэтага зразумець і дзівіцца.

### Упартая

— Лізхен, — кажа раззлаваны муж, — калі ты не перастанеш упарціцца, страціш мяне назаўсёды. Ні адзін жа чалавек цябе з такім характарам не вытрымае.

— Гансік, — адказвае яна сур'ёзна, — ёсць мужчына, якому мой характар падабаецца.

— Хто ён такі?

— Твой бацька.

### Дзякуй Богу

Нямецкі пастар, які ехаў на невялікім судне з Гамбурга, узабраўся на капітанскі масток і зрабіў заўвагу, што матросы брыдка лаюцца.

— На жаль, я нічога не магу зрабіць, — адказаў капітан. — Зрэшты, калі яны брыдка лаюцца, дык тады нам нічога не пагражае. Можаце спакойна адпачываць.

Праз некалькі гадзін разгуляўся шторм. Напалоханы пастар яшчэ раз ускарабкаўся на масток, прычым пры гэтым віхура сарвала ягоны галаўны ўбор.

— Гэр капітан! Гэта ж проста жах! А ці матросы працягваюць лаяцца?

— Яшчэ як!

— Ну, тады дзякуй Богу!

### Выгляд

Пасля некалькіх дзён марскога падарожжа на цеплаходзе арганізавалі забаву. Па задуме масавіка жанатыя павінны быць асобна ад халастых. Да аднаго з мужчын, які стаяў ля борта, звярнуласяжанчына:

— Прашу да нас, бо вы, напэўна, жанаты і павінны быць з нашай камандай.

— Прабачце, не! У мяне марская хвароба, і толькі таму я так дрэнна выглядаю.

### Вяртанне

Ноч 1995 года. Беларуская вёска.

Дзверы адной хаты з грукатам расчыняюцца, з парога пажылы нямецкі афіцэр крычыць гаспадыні:

— Бабка! Малако, яйкі, куркі, шнапс!

Спалоханая жанчына:

— Да ты што, з глузду з'ехаў? У нас саміх гэта рэдка бывае!

— Дурная кабета, гэта ўсё я прывёз табе!

### Пашэнціла

Мюнхенскі банкір аднойчы прызнаўся:

— Яшчэ хлапчуком я марыў зрабіцца вялікім разбойнікам.

— Табе пашэнціла, — іранічна заўважыў яго сябар. — Дзіцячыя мары здзяйсняюцца вельмі рэдка.

### Карэкцыя

Уваскрэс Маркс і настойліва просіць даць яму магчымасць выступіць па тэлебачанні. Нарэшце згадзіліся і пачулі:

— Пралетарыі ўсіх краін, выбачайце!

### Сваякі

— А ў вас ёсць бедныя сваякі?

— Я іх не ведаю.

— А багатыя?

— Яны, на жаль, не ведаюць мяне.

### Спадчына

— Што атрымала ў спадчыну Германія ад Маркса?

— Усходняя — камуністычны маніфест, Заходняя — капітал.

### Пакаёўка

— Запомні раз і назаўсёды! — кажа Герта мужу. — Калі ты будзеш прыставаць да пакаёўкі, я з табой развядуся.

— З-за такога глупства?

— Ты яе распесціш. Зразумей, такога мужа, як ты, я заўжды знайду, а такую пакаёўку — наўрад ці!

### Дудкі

Знакаміты банкір сядзіць у крэсле і чытае газету. Нечакана ўваходзіць яго дачка з маладым чалавекам. Яны сарамліва трымаюцца за рукі і ўсміхаюцца. Банкір глядзіць на маладую парачку і заяўляе:

— Ну што там у вас? Калі хочаце ажаніцца — калі ласка, але калі хочаце паездзіць на маёй новай машыне — дык дудкі.

### Адзінае выйсце

Малады адвакат кажа свайму кліенту:

— Гэта мая першая справа, і мне неабходна дамагчыся вашага апраўдання.

— Баюся, у дадзеным выпадку ў вас ёсць толькі адзінае выйсце: сказаць, што менавіта вы абрабавалі ювелірны магазін.

**Падрыхтаваў Пятро СТЭФАНОВІЧ.**

# ТЕЛЕПРОГРАММА

## Пятница, 6 июня

### Белорусское телевидение

**15.00, 18.35, 24.00** Новости.
**15.15** Видеокурс французского языка.
**15.45** "Приключения Скиппи". Телесериал для детей (Австралия).
**16.15** Усадьба. Программа для дачников.
**16.45** "Прикосновение". Док. фильм (к 198-й годовщине со дня рождения А.С.Пушкина).
**17.00** Музыкальный антракт.
**17.10** "Белая амфора-97". Республиканский конкурс модельеров-дизайнеров. Передача из Витебска.
**18.00** Гандбол. Чемпионат мира среди юниоров. Беларусь — Болгария.
**19.25** Тема дня.
**19.45** Премьера БТ. "Проверка". Спектакль по рассказу В.Кадетовой.
**20.00** "В джазе только девушки". Развлекательная программа.
**20.25** Музыкальный антракт.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.50** "Дурное влияние". Худ. фильм (США).
**23.30** Международные соревнования по легкоатлетическому метанию на призы олимпийского чемпиона Р.Клима.
**0.10** Акколада.

### ОРТ

**17.00, 22.55** Новости.
**17.20** "Девушка по имени Судьба". Сериал.
**18.10** Погода.
**18.15** Человек и закон.
**18.45** Поле чудес.
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.40** Программа передач.
**20.45** Великие сыщики: Коломбо в детективе "Восток — дело тонкое".
**22.10** Взгляд.
**23.05** Теннис. Открытый чемпионат Франции. 1/2 финала.
**0.35** Пресс-экспресс.
**0.45** Программа передач.

### Канал "Россия"

**16.00, 19.00, 22.00** Вести.
**16.15** Там-там новости.
**16.25** Лукоморье.
**16.45** Посмотри на себя.
**17.05** Россияне.
**17.20** Парламентский вестник.
**18.00** "Санта-Барбара". Худ. фильм.
**19.35** Добрый вечер.
**20.20** Михаил Жаров в фильме "Деревенский детектив".
**22.30** "Кинотавр-97". Дневник фестиваля.
**22.50** Тихий дом. Программа С.Шолохова.
**23.30** Ночной экспресс.

### Санкт-Петербург

**15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ.
**15.40, 20.45** Телеслужба безопасности.
**16.05** Р.Шуман. "Любовь и жизнь женщины". Ирина Богачева.
**16.45** "Я числюсь по России..." К дню рождения А.С.Пушкина.
**17.15** "Александровский парк". Телефильм.
**17.30** Телемагазин.
**18.40** Большой фестиваль.
**19.15** Спорт.
**19.20** "История любви". Сериал.
**20.15** "Поедем в Царское Село".
**21.00** Игра "Лотто-бинго".
**22.10** Событие.
**22.25** Спортивное обозрение.
**22.50** Питерский рок-фестиваль-97.

### НТВ

**18.00, 21.00** Сегодня вечером.
**18.40** Герой дня.
**19.05** Г.Корольков, Т.Семина, Л. Прыгунов в фильме "Трактир на Пятницкой".
**20.40** "Алло, Фима!"
**21.45** Сериал "Крутой Уокер: правосудие по-техасски".
**22.40** Времечко.
**23.00** Сегодня в полночь.
**23.20** Ночное "Времечко".
**23.55** Б.Щербаков, Э.Сафари в фильме "Монстры" (США).

### ТВ-6 Москва

**18.40, 20.20, 22.55** Шесть новостей.
**16.35, 23.25, 0.20** Диск-канал.
**17.10, 23.10** Дорожный патруль.
**17.00** Аптека.
**16.05** Сериал "Школа разбитых сердец".
**17.25** "Ералаш".
**17.35** Шоу Бенни Хилла.
**18.10** Вы — очевидец.
**18.55** Фантастическая комедия "Формула радуги".
**20.35** Клуб "12 копеек".
**21.05** Рутгер Хауер в триллере "Попутчик" (США).
**0.10** Знак качества.
**0.30** "На-На" — через полвека".

### 8-й канал

**18.00** Сцена "Европа".
**18.30** По вашим просьбам. "Таггерт".
**19.30** Аэробика "Новый Эдем". Программа Светланы Кашицкой.
**20.00** Мультфильм.
**20.30** Спорт-action.
**21.30** Журнал "Служба 01".
**22.00** Джеймс Бонд — агент 007. Худ. фильм "Живешь только дважды".

## Частные объявления

### Приглашаем

*13 июня 1997 года в ауд. 433 (гл. корпус БГУ) в 16.00 состоится встреча выпускников 1972 года математического факультета и факультета прикладной математики Белгосуниверситета. Справки по телефону: 220-73-22.*

*Прочитай и передай однокурсникам. Выпускники физического факультета БГУ 1977 года. Сбор 21 июня в ауд. 284 физфака в 14.00. Т. 277-21-70.*

### Работа

Работу на дому. Доход до 800 долларов. От вас конверт с о/а. 222310, г.Молодечно-4, а/я 22.

Работа на дому, 130 тысяч в день. Обязательно конверт с обратным адресом. 220040, Минск-40, а/я 64.

### Продаю

Цемент М-500 в мешках, шифер 8 мм волн., ДВП, ДСП шлиф., ДСП ламинир. Т. в Дзержинске (8-216) 5-42-02.

**Станок токарно-винторезный, настольный. Т. 268-56-79.**

Краску белую (эмаль ПФ-115) в банках по 2,4 кг. Т. 246-22-77.

Высокопородных щенков добермана от собак высокого класса из питомника "Ривал'с". Дорого. Т. 261-08-49.

Листы оцинкованные 1х2х0,55м. Т. 255-24-97.





## Купон для частных объявлений

**Заказ на размещение рекламного объявления в газете "Народная воля"**

Ф.И.О. заказчика ____________________

проживающего ____________________ тел. __________

Прошу опубликовать в газете "Народная воля" мое рекламное объявление под рубрикой ____________________

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

Квитанция об оплате прилагается.

(Дата)__________ (Подпись) __________

За допущенные по вине заказчика ошибки редакция ответственности не несет.

*Примечание. За редакцией сохраняется право литературного и технического редактирования объявлений.*

**Стоимость одной газетной строки (30 знаков) 15 000 рублей. Оплата прозводится почтовым переводом на расчетный счет редакции газеты (см. ниже) или непосредственно через бухгалтерию "Народной воли".**

**Адрес редакции: г. Минск, ул. Энгельса, 34а. Р/с 3012122101135 в МинскКомплексБанке, код 734. Телефоны/факсы: 229-29-04, 229-29-06.**

**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 229-28-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 229-29-04.

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя адказнасці не нясе. Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты надрукаваны з дыяпазітываў у ЗАТ "Летувас рытас". Адрас: г. Вільнюс, пр-т Гедыміна, 12а. Падпісаны ў друк у 21.00. Фармат А-2. Тыраж: першы завод —61 000 экз. Заказ № 1055